
.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
ПАДАННІ #20
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY
ten years on the edge
VERTIGO X
issue 20
feb 04
2.50
can 3.85
BILL WILLINGHAM
MARK BUCKINGHAM
STEVE LEIALOHA
SUGGESTED FOR MATURE READERS
vertigocomics.com
A MAN FOR ALL
FABLES
VOTE
PC for MAYOR
Sponsored by a generous grant from the Bluebeard Memorial Foundation. Styling and wardrobe by the Dapper Ascot. JJ 03

ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ: **АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ: **СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ**

# 4



























# Чырвоны Капялюшык, Беласнежка і Пастушок

## ГЛАВА ДРУГАЯ ◦ МАРШ ДРАЎЛЯНЫХ САЛДАТАЎ


BILL WILLINGHAM writer/creator
MARK BUCKINGHAM penciller
STEVE LEIALOHA inker
DANIEL VOZZO color/seps
TODD KLEIN lettering
JAMES JEAN cover art
MARIAH HUEHNER assistant editor
SHELLY BOND editor







АЙ!




ЯКОГА **ЛЯСУНА**?


ПІНОКІА!
ВОСЬ **ПАГАНЕЦ**!
Я ТОЛЬКІ ШТО ПАРЭЗАЎ **НАГУ** АБ АДНАГО З ТВАІХ ССАНЫХ ЦАЦАЧНЫХ **САЛДАЦІКАЎ**!
НЯ ТРЭБА ГАРЛАПАНІЦЬ, ПАСТУ-ШОК, Я ЦЯБЕ **ЦУДОЎНА** ЧУЮ АДСЮЛЬ.
FRANKENSTEIN

НЯ ТРЭБА...?
АЛЕ Я **ПАРАНІЎСЯ**!
У МЯНЕ ЁСЦЬ ДЗВЕ ЗАЎВАГІ, ЯКІЯ ТРЭБА ЎПАМЯНУЦЬ, І АБЕДЗВЕ ІХ МОЖНА РАСТЛУМАЧЫЦЬ НА РАЗУМНАЙ ГУЧНАСЦІ.
ПА-ПЕРШАЕ, **Я** НЯ ТОЙ, ХТО ПАРАССТАЎЛЯЎ МАЮ КАЛЕКЦЫЮ ЦАЦАЧНЫХ САЛДАЦІКАЎ ПА ЎСЁЙ ПАДЛОЗЕ ПАКОЯ.
ЯНЫ **АДЗІНАЕ**, ШТО Я ЗМОГ ПРАНЕСЦІ З САБОЙ З РОДНЫХ ЗЕМЛЯЎ. ЯНЫ ВЫРАЗАНЫ МАІМ БАЦЬКАМ, ДЖЭПЕТА, ЯКІ ЎВОГУЛЕ НЯ ЗМОГ ВЫБРАЦЦА.
САМІ ПА САБЕ ЯНЫ АДЗІНАЕ, ШТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ У ПАМЯЦЬ ПРА МАЙГО БАЦЬКУ, ЯКІ, ЯК МНЕ ВЯДОМА, МОЖА БЫЦЬ МЁРТВЫМ, ЦІ ЯШЧЭ ГОРШ, **НЯВОЛЬНІКАМ** УСЕ ГЭТЫЯ ГАДЫ.
І МЕНАВІТА ПА **ГЭТАЙ** ПРЫЧЫНЕ Я ШАНУЮ ІХ ВЕЛЬМІ МОЦНА, КАБ АДНОСІЦЦА ДА ІХ, ЯК ДА ЗВЫЧАЙНЫХ ЦАЦАК.
FRANKENSTEIN
АЛЕ...
АЛЕ ГЭТА ІДЭЯ, ЗДАЕЦЦА, НЯ МОЖА ПРАБІЦЦА ПРАЗ ТОЎСТЫ ЧЭРАП МУХАЛОВА.
МЕНАВІТА ЁН ПРАЦЯГВАЕ ПРАБІРАЦЦА Ў НАШ ПАКОЙ, КАБ **ПАГУЛЯЦЬ** З ІМІ... ШТО ІДЭАЛЬНА ПАДВОДЗІЦЬ НАС ДА МАЁЙ **ДРУГОЙ** ЗАЎВАГІ.
КАЛІ Б ТЫ НЯ СПАЎ У СВАЕ ВЫХАДНЫЯ **ДА ПАЎДНЯ**, ТЫ Б ПРАЧНУЎСЯ **ЗАДАЎГА** ДА ТАГО, ЯК МУХ ПРЫЙШОЎ ГУЛЯЦЬ У ВАЙНУШКУ МАІМІ НЕЗАМЕННЫМІ ПАМЯТНЫМІ РЭЧАМІ.
ДАРЭЧЫ, У МУХА БЫЛО ПАВЕДАМЛЕННЕ ДЛЯ ЦЯБЕ.
УНІЗЕ Ў КІРАЎНІЦТВЕ СПРАВАМІ НЕЙКАЯ ВЯЛІКАЯ ПАДЗЕЯ, І БОЗЛІ ЖАДАЕ БАЧЫЦЬ ЦЯБЕ ТАМ, ЯК ТОЛЬКІ ТЫ ПРАЧНЕШСЯ.

«ПАСЛЯ ПАДЗЕННЯ ЦВЯРДЫНІ НА КРАІ СВЕТУ, МЯНЕ СХАПІЛІ САЛДАТЫ ІМПЕРАТАРА».
«НЕКАЛЬКІ ТЫДНЯЎ МЯНЕ СКАРЫСТОЎВАЛІ ТАК, ЯК САЛДАТЫ ЗВЫЧАЙНА СКАРЫСТОЎВАЮЦЬ ЗАХОПЛЕНЫХ ЖАНЧЫН».
НАБЛІЖАЕЦЦА НАВАЛЬНІЦА.
МОЦ-НАЯ.
BULLFINCH STREET
ПОТЫМ МЯНЕ ЗНОЎ АДПРАВІЛІ Ў НЯВОЛЬНІЦТВА, ЯКОЕ Я ЦЯРПЕЛА ЎСЕ ГЭТЫЯ СТАГОДДЗІ. З ЧАСАМ Я ЗНОЎ ЗАРАБІЛА ІХ ДАВЕР І ЗМАГЛА ЎЦЯЧЫ.
Я ЎЦЯКЛА ПРАЗ БРАМУ ОЗ, ЯКАЯ ЗЛУЧАЕЦЦА З ВАШЫМІ ПАЎНОЧНЫМІ ЗЕМЛЯМІ КАНДЫ.
КАНАДЫ.
ДВОЕ З ВАШАГА ГАРНІЗОНА ВЫРАШЫЛІ СУПРАВАДЗІЦЬ МЯНЕ АД ПАЎНОЧНАЙ БРАМЫ, АЛЕ ЯНЫ БЫЛІ ЗАБІТЫ ГОБЛІНАМІ, ЯКІЯ НАПАЛІ НА НАС.

Я НЯ ВЕДАЛА, ШТО ХТОСЬЦІ ІШОЎ ЗА МНОЙ, АЛЕ ЯНЫ, НАПЭЎНА, ПРАСЛЕДАВАЛІ МЯНЕ ЦЕРАЗ БРАМУ.
ВА ЎСЯЛЯКІМ ВЫПАДКУ, ЯНЫ ЎСЕ БЫЛІ ЗАБІТЫ, І КАЗАЧНЫЯ, І ГОБЛЫ, А Я ЎЦЯКЛА.
І САМАСТОЙНА ДАБРАЛАСЯ СЮДЫ?
ТАК.
ГЭТА **ВЫДАТНАЕ** ДАСЯГНЕННЕ, СПАДАРЫНЯ КАПЯЛЮШЫК.
ВЫ **ПЕРШАЯ** КАЗАЧНАЯ, ЯКАЯ ЗБЕГЛА З РОДНЫХ ЗЕМЛЯЎ БОЛЬШ ЧЫМ ЗА **СТАГОДДЗЕ**.
ЦІ ЎЯЎЛЯЕЦЕ ВЫ, ЯКІ ЭФЕКТ ВЫКЛІКАЕ ВАША ПРЫБЫЦЦЁ НА **МАРАЛЬНАЕ СТАНОВІШЧА** НАШАЙ СУПОЛЬНАСЦІ?
ЯКІ ЭФЕКТ **УЖО** ЗРОБЛЕНЫ?
Я НЕ ЧАКАЮ АСАБЛІВАЙ УВАГІ.
НУ, ВЫ ЯЕ **АТРЫМАЕЦЕ**!
ВЫ БУДЗЕЦЕ **ГАЛОЎНАЙ ПАДЗЕЯЙ У ГОРАДЗЕ**!




ПРАМА ТУТ, **У ФЭЙБЛСІЦІ!**

ГЭТА **ФЭЙБЛТАЎН**.

НЯМА РОЗНІЦЫ.










*КРОЗ – ЦАР ЛІДЗІІ, УЛАДАЛЬНІК НЕЗЛІЧОНЫХ БАГАЦЦЯЎ.


EDW
BEAR'S
CANDIES
КАЛІ ЗВЫЧАЙНЫ ГУБЛЯЕ ПРАЦУ, ЁСЦЬ ДАПАМОГА.
КАЛІ ЗВЫЧАЙНЫ ЗАХВАРЭЎ, УСЁ, ШТО ЯМУ ТРЭБА ЗРАБІЦЬ, ГЭТА ПАЕХАЦЬ У БЛІЖЭЙШУЮ БАЛЬНІЦУ, ДЗЕ ЯМУ НЯ ЗМОГУЦЬ АДМОВІЦЬ, ТАМУ ШТО МЕДЫЦЫНСКАЯ ДАПАМОГА АБАВЯЗКОВАЯ.
CHOCS
CHOCS
CHOCS
BEAR'S
CANDIES

КАЛІ ЗВЫЧАЙНЫ НЯ МОЖА ТРАПІЦЬ У ШКОЛУ ЦІ НА СПАРТЫЎНУЮ ПАДЗЕЮ, ЦІ Ў КЛУБ, У ЯКІ ЁН ЖАДАЕ ТРАПІЦЬ, ЁН МОЖА ПАДАЦЬ У СУД, І ЯГО ЎРАД ПРЫМУСІЦЬ УСТАНОВУ-ПАРУШАЛЬНІКА АДЧЫНІЦЬ ПЕРАД ІМ ДЗВЕРЫ.

НАВАТ КАЛІ ЁН РАЗАЛЬЕ НА СЯБЕ КУБАЧАК КАВЫ, ЁН МОЖА СУДЗІЦЦА НА МІЛЬЁНЫ БАКСАЎ.
ЯГО ЎРАД КЛАПАЦІЦЦА ПРА СПАДАРА ЗВЫЧАЙНАГА.

АЛЕ ТУТ, У ФЭЙБЛТАЎНЕ, ЗУСІМ ІНШАЯ ГІСТОРЫЯ.
КАЛІ З КІМСЬЦІ З НАС ЗДАРАЕЦЦА НЕЙКАЯ НЕПРЫЕМНАСЦЬ, ЗНАЧЫЦЬ ГЭТА «ВЕЛЬМІ ДРЭННА, АЛЕ ЛЕПЕЙ ЗНАЙДЗІЦЕ РАШЭННЕ ХУТЧЭЙ, ЦІ ВАМ НА ФЕРМУ».

МЫ КАЗАЧНЫЯ, У ІМЯ ЎСЯГО СВЯТОГА, І ЎСЁ РОЎНА НІХТО З НАС НЕ ЖЫВЕ ТАК ДОБРА, ЯК САМЫ НІКЧЭМНЫ І СТАРЫ СА ЗВЫЧАЙНЫХ.
І ЗАРАЗ Я ПЫТАЮ ВАС, ГЭТА ПРАВІЛЬНА?
НЕ!

ТАК ПАВІННА БЫЦЬ?
НЕ!

CRRAAAAAAAAAKKOOOOOOOHHMMM!

THE GLASS SLIPPER SHOES

УСЕ ГЛЯДЗЯЦЬ НА ЦЯБЕ, ПАСТУШОК.

Я ВЕДАЮ!

ПРА ШТО ЯНЫ МОГУЦЬ **РАЗМАЎЛЯЦЬ**?

ПРАБАЧЦЕ КАЛІ ЛАСКА.

КАРОЛЬ КОЛЬ, ЗДАЕЦЦА, УЖО ПАДБУХТОРВАЕ ЯЕ ЗРАБІЦЬ УЗНОС.

Я ТУТ ІДУ.

ІДУ Ў ЗАКЛАД, ЯНА РАСКАЗВАЕ, ХТО **ВОРАГ**.

**ДАЙЦЕ ПРАЙСЦІ!**

ЯКРАЗ У **ПАРУ**.
ХТО..?
АКЕЙ, ШЭРЫФ, Я **ТУТ**. ДА ЧАГО ТАКАЯ...
BUSINESS OFFICE
NESS ICE
...СПЕШНАСЦЬ?
КАПЯЛЮШЫК?
ПАСТУШОК?
АЛЕ ТЫ Ж **МЁРТВЫ(АЯ)**!
БОЖА МОЙ!
Я ЛЕДЗЬ ВЕРУ СВАІМ **ВАЧАМ**! ГЭТА САПРАЎДЫ **ТЫ**?
ЯК ТЫ МОЖАШ **БЫЦЬ** ТУТ, ПАСТУШОК? ТЫ Ж ЗАСТАЎСЯ **ТАМ**? Я БАЧЫЛА, ЯК КАРАБЕЛЬ **ПАЙШОЎ** БЕЗ ЦЯБЕ!
ДОЎГАЯ ГІСТОРЫЯ, АЛЕ Я ЗМОГ ТРАПІЦЬ НА КАРАБЕЛЬ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЁН АДПЛЫЎ.


ТЫ ПАКІНУЎ МЯНЕ ПАМІРАЦЬ?
АЛЕ Я..!
ПРЫМІ АД МЯНЕ РУКІ!


АЛЕ Я ДУМАЎ, ШТО ТЫ БЫЛА НА КАРАБЛІ.
АДЫДЗІ АД МЯНЕ! МНЕ ТРЭБА АБДУМАЦЬ ГЭТА.


ТЫ ПАКІНУЎ МЯНЕ, ПАСТУШОК, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК СКАРЫСТАЎ МЯНЕ НА НОЧ... ТАКСАМА ЯК І ІХ САЛДАТЫ.
ПРЫНАМСІ ЯНЫ БЫЛІ ДАСТАТКОВА ЛАСКАВЫЯ, КАБ НЕ ПРЫКІДВАЦЦА, ШТО ГЭТА МАЕ НЕШТА АГУЛЬНАЕ З КАХАННЕМ.
Я НІКОЛІ..!


АТРЫМАЛАСЯ НЯ ВЕЛЬМІ ДОБРА.
НАСУПРАЦЬ, УСЁ ЦУДОЎНА СЫХОДЗІЦЦА.


ГЭТА Ў ДАКЛАДНАСЦІ ТОЙ КРОК, ЯКІ ЁЙ ВАРТА БЫЛО ЗРАБІЦЬ.

КАЛІ ВЫ, ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ ФЭЙБЛТАЎНА, ПАЛІЧЫЦЕ ПАТРЭБНЫМ ВЫБРАЦЬ МЯНЕ ЯК ВАШАГА **НОВАГА** МЭРА, Я ЗРАБЛЮ НЕАДКЛАДНЫЯ І РАДЫКАЛЬНЫЯ ЗМЕНЫ.

EDWARD BEAR'S CANDIES

ПЕРШУЮ РЭЧ, ЯКУЮ ЗРОБІЦЬ **НОВАЯ** АДМІНІСТРАЦЫЯ, ГЭТА АПЛАТА **БЯСПЛАТНЫХ ЧАРАЎ** ВЫГЛЯДУ ЎСІМ, ХТО Ў ГЭТЫМ МАЕ ПАТРЭБУ.

БОЛЕЙ КАЗАЧНЫХ НЯ БУДУЦЬ АДПРАЎЛЯЦЬ НА ФЕРМУ, ТОЛЬКІ ТАМУ ШТО ВЫГЛЯДАЮЦЬ ЯНЫ **ТРОХІ** НЕ ПА-ЛЮДСКУ.

І ЯК НАКОНТ АПЛАТНЫХ ФЭЙБЛТАЎНАМ **ПЕРАТВАРЭННЯЎ** ДЛЯ КОЖНАГА КАЗАЧНАГА З ФЕРМЫ, ЯКІЯ МОГУЦЬ ЖАДАЦЬ СКОНЧЫЦЬ СА СТАГОДДЗЯМІ НЕСПРАВЯДЛІВАГА **ЗНЯВОЛЕННЯ** ТАМ?

ПЕРАТВАРЫЦЬ ІХ У ЛЮДЗЕЙ?

ШТО, КАЛІ ЯНЫ НЕ **ПАЖАДАЮЦЬ** БЫЦЬ ЛЮДЗЬМІ?

ГЭТА СПРАЦАВАЛА ДЛЯ **БОЗЛІ**, ЧАМУ Б НЕ СПРАЦАВАЦЬ І ДЛЯ АСТАНІХ?

ЯНЫ **ЗАЎСЁДЫ** ЗМОГУЦЬ ВЯРНУЦЦА НА БЯСПЕЧНУЮ ФЕРМУ, КАЛІ ПАЖАДАЮЦЬ ЗНОЎ БЫЦЬ ПАРАСЁМ, КАЧКАЙ ЦІ КАЗЛОМ БІЛІ.

МАЕ ШАНОЎНЫЯ ЖЫХАРЫ, ПРЫЙШОЎ ЧАС ПРЫМАЦЬ **ПРАДБАЧЛІВАЕ** ВЫРАШЭННЕ ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ ФЭЙБЛТАЎНА.

КАЛІ ВЫ ЖАДАЕЦЕ САДЗЕЙНІЧАЦЬ НАДЫХОДУ НОВАЙ ЗАЛАТОЙ ЭРЫ, ПРОСТА **ПАДПІШЫЦЕ** ПЕТЫЦЫЮ.


ЧЫР-
ВОНЫЯ
ХОТЫ!


КУПІЦЕ ЧЫРВОНЫЯ ХОТЫ ТУТ!
ШТО ТАКОЕ «ЧЫРВОНЫЯ ХОТЫ» І ЧАМУ ТЫ **КРЫЧЫШ** НА МЯНЕ?


ТУРЫСТЫ, ТАК?
ВОСТРЫЯ ХОТ-ДОГІ, ЛЕПШЫЯ Ў ГОРАДЗЕ.
ЕЖА?
ЁН ПРАПАНУЕ НАМ **ЕЖУ**?


НАВОШТА ТЫ **РОБІШ** ГЭТА, МЯСАГАЛОВЫ? НАВОШТА ПРАПАНУЕШ **НАМ** ЕЖУ?
ГЭЙ? У ЧЫМ **СПРАВА**?
НАМ НЕ ПАТРЭБНА ЕЖА.
НАМ НЕАБХОДНА ЗБРОЯ.

І КІРУНАК ДА ВУЛІЦЫ БУЛФІНЧ.
ХУТКА, МЯСНЫ! РАСКАЖЫ НАМ, ДЗЕ ЗБРОЯ І ВУЛІЦА БУЛФІНЧ.
ЦІ...
ДАПАМАЖЫЦЕ! ПАЛІЦЫЯ!
**МЯНЕ ТУТ РАБУЮЦЬ!**




ВЫ ПРАЙШЛІ **ВЕЛЬМІ** ЦЯЖКІЯ ВЫПРАБАВАННІ, СПАДАРЫНЯ КАПЯЛЮШЫК.


ЗАРАЗ ВАМ ЛЕПШ ЗА ЎСЁ АДПАЧНУЦЬ.
УЖО **ПРАЙШЛО** ШМАТ ЧАСУ, ЯК Я СПАЛА. ДЗЕ Я..?


ПАКОЙ ДЛЯ ГАСЦЕЙ. З ПОЎНЫМ КАМФОРТАМ. **СЮДЫ**.
АДЧУВАЙЦЕ СЯБЕ **ЯК ДОМА**.


І ВЫ НЕ ПАДПУСЦІЦЕ ДА МЯНЕ ПАСТУШКА?
ВАМ НЯ ТРЭБА БАЧЫЦЬ **ТЫХ**, КАГО ВЫ НЕ ЖАДАЕЦЕ.


ЛІЧЫЦЕ МЯНЕ ВАШАЙ АСАБІСТАЙ КРЭПАСЦЮ ЗАЦІШКУ.


SECURITY OFFICE
B. WOLF
BUSINESS OFFICE
S. WHITE


БОЗЛІ, НАМ ТРЭБА **ПАГАВАРЫЦЬ**.
ЯК ПАСТУШОК?


У СТАНЕ ЛЁГКАГА ШОКУ. Я АДПРАВІЛА ЯГО НА ДЗЕНЬ ДАДОМУ.
ДЫК І ШТО ВАС **ЦІКАВІЦЬ**, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА?
ТЫ ВЕДАЕШ... ЦІ **ДУМАЕШ**, ШТО ВЕДАЕШ... ШТОСЬЦІ ПРА ЧЫРВОНЫ КАПЯЛЮШЫК. Я Б ЖАДАЛА ВЕДАЦЬ, ШТО ГЭТА.


БЯССПРЭЧНА. БЯРЫ СТУЛ, ГЭТА ЗАЙМЕ НЕКАТОРЫ ЧАС.
ТЫ ВЕДАЕШ, ЧАМУ Я БРАЎ АДГУЛЫ НА ПАДОЎЖАНЫЯ ПЕРЫЯДЫ Ў 1918 І ПОТЫМ ЗНОЎ У 1939?


Я НЕ ІМБЕЦЫЛ. Я МАГУ ГЛЯДЗЕЦЬ У КАЛЕНДАР. **УСЕ** ВЕДАЮЦЬ, ШТО ТЫ ЎПОТАЙКІ ПРАБІРАЎСЯ НА ФРОНТ, КАБ БІЦЦА НА ВОЙНАХ.
**МАБЫЦЬ**, ТЫ ЖАДАЎ, КАБ ГЭТА ЗАСТАВАЛАСЯ ВЯЛІКАЙ ТАЙНАЙ, ТАМУ РАНЕЙ Я НІКОЛІ НЕ ЗАПЫТВАЛА.







«ПАДЧАС ВОЙНАЎ Я ВАЯВАЎ ЗА ЛІНІЯЙ ВАРОЖАГА ФРОНТУ... ГАЛОЎНЫМ ЧЫНАМ У АДЗІНОТКУ, АЛЕ ЧАСАМ ПРАЦУЮЧЫ З НАШЫМІ ГРУПАМІ КАМАНДАС».

«НЕ ХВАЛЮЙСЯ, Я НІКОЛІ НЕ ПАКАЗВАЎ ІМ СВАЮ САПРАЎДНУЮ ІСНАСЦЬ».

«ЧАС АД ЧАСУ МЫ ЛІЧЫЛІ ЭФЕКТЫЎНЫМ РАЗМЯШЧЭННЕ НАШЫХ АГЕНТАЎ У ШЭРАГАХ ВОРАГАЎ... ЧАСЦЕЙ ЗА ЎСЁ ПАД ВЫГЛЯДАМ ПЕРАБЕЖЧЫКАЎ».

«АДНЫМ З ДОБРЫХ СПОСАБАЎ ПЕРАКАНАЦЬ ВОРАГА Ў ТЫМ, ШТО ПЕРАБЕЖЧЫКІ САПРАЎДНЫЯ, БЫЛО Ў ЛІТАРАЛЬНЫМ СЭНСЕ ЗАГНАЦЬ ІХ У РУКІ ВОРАГАЎ... АЖ ДА ТАГО, КАБ УСАДЗІЦЬ У ІХ ПАРУ КУЛЬ».

ICH BIN EIN DEUTCHER-AMERIKANER*! Я НЕ ЖАДАЮ БОЛЬШ ВАЯВАЦЬ СУПРАЦЬ ВАШАГА НАРОДА! VERSTEHEN?**

*Я НЯМЕЦКІ АМЕРЫКАНЕЦ! (ПЕР. З НЯМЕЦКАГА)
**РАЗУМЕЕЦЕ? (ПЕР.З НЯМЕЦКАГА)

ГЭТА БЫЛО РЫЗЫКОЎНА, АЛЕ НІШТО ТАК НЕ ПЕРАКАНАЛА ДРЭННЫХ ХЛОПЦАЎ, ЯК НЯШЧАСНЫ ПАРАНЕНЫ ВЫБЛЯДАК, ЯКІ ДАЛУЧАЕЦЦА ДА ІХ.

О МОЙ БОГ. ТЫ ДУМАЕШ, КАПЯЛЮШЫК... **ШПІЁНКА**, НАКІРАВАНАЯ СЮДЫ ВОРАГАМ?




ВЕЛЬМІ **ПЕРАКАНАЎЧА**, ТАК ЖА?






«ТАДЫ ЧАМУ ЯНЫ ДАЗВОЛІЛІ ЁЙ, І **ТОЛЬКІ** ЁЙ ЖЫЦЬ? ІМ ШТО САПРАЎДЫ ТАК МОЦНА БЫЛА НЕАБХОДНА ЯШЧЭ АДНА **ПРЫБІРАЛЬШЧЫЦА**?»



«І ЯШЧЭ БРАМА КАНАДЫ БЫЛА ЗАБЛАКІРАВАНА ПРЫКЛАДНА ДВА СТАГОДДЗІ, І ЯНА БЫЛА ЗАЧЫНЕНА З ІНШАГА БОКУ – СІЛАМІ ВОРАГА, А НЯ НАШЫМІ».













АЛЕ ЯНЫ ПЕРАСТАРАЛІСЯ.
АДНАК ГЭТА ТОЛЬКІ ЗДАГАДКІ. НІЧОГА З ГЭТАГА НЕ ЎЯЎЛЯЕ САБОЙ САПРАЎДНЫХ **ДОКАЗАЎ**.

БЕЗУМОЎНА, ПАКУЛЬ ГЭТА ТОЛЬКІ ЖМЕНЬКА ПАДОЗРАННЯЎ, А Я **ПА СУТНАСЦІ** СВАЁЙ ПАДАЗРОНЫ. АЛЕ Ж ТЫ ЗГОДНА, ШТО ГЭТА ТРЭБА РАССЛЕДАВАЦЬ ПАДРАБЯЗНЕЙ?
І **ШТО** ТЫ ЗБІРАЕШСЯ РАБІЦЬ?

РАЗНЮХВАЦЬ.
А ТАБЕ ТРЭБА ПРАСАЧЫЦЬ ЗА КАРАЛЁМ КОЛЕМ. ЁН **ВЕЛЬМІ** ЎЗРАДАВАЎСЯ НАШАЙ НОВАЙ ГОСЦІ... ГАТОВЫ ЧАДРАЗУ ДАЦЬ ЁЙ КАЗАЧНАЕ ГРАМАДЗЯНСТВА.

ЯНА – ГЭТА ДОБРЫЯ НАВІНЫ, А ДОБРЫЯ НАВІНЫ – ГЭТА ДОБРА ДЛЯ АХВЯРАВАННЯЎ.
У НАШАГА МЭРА ЎСЁ КРУЦІЦЦА ВАКОЛ ГРОШАЙ.

НІЯКІ ЎРАД НЯ МОЖА ПРАЦАВАЦЬ БЯЗ ІХ. ТАБЕ НЯ ТРЭБА ТАК ХУТКА СУМНЯВАЦЦА Ў ІМ.
ЗРАЗУМЕЎ.


І КОЛЬКІ Ў НАС ЗАРАЗ ПОДПІСАЎ, ХОБС?
67, СЭР.


МЫ ПАТРОІМ ГЭТУ ЛІЧБУ... ПА-ЧАЦВЯРЫМ... КАЛІ ПАЕДЗЕМ НА ФЕРМУ. МАЯ ПРАМОВА АСАБЛІВА ДОБРА ПАДЗЕЙНІЧАЕ ТАМ.
Я ТАКСАМА ТАК ЛІЧУ, СЭР.


І НАМ ПАТРЭБНЫ **ПОСТЭРЫ**... КАБ НА ІХ БЫЛО ШМАТ ЧЫРВО-НАГА, БЕЛАГА І СІНЯГА. ПАКУЛЬ У НАС НЯМА СВАЙГО СЦЯГА, МЫ **ЗАПАЗЫЧЫМ** ПАТРЫЯТЫЧНЫЯ КОЛЕРЫ КРАІНЫ, ЯКАЯ ДАЛА НАМ ПРЫТУЛАК.
УЛАСНЫ СЦЯГ БЫЎ БЫ НЯДРЭН-НЫМ ХОДАМ, ВАША ВЫСОКАСЦЬ.


**ШЫКОЎНАЯ** ІДЭЯ ХОБС, ЗАНАТУЙ.
ПРАЧЫНАЙ-СЯ, ГРЫМБЛ.


ШТО ТАКОЕ, БОС?
Я БУДУ АДСУТНІЧАЦЬ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН... МАБЫЦЬ БОЛЕЙ.
І ВОСЬ, ШТО Я ЖАДАЮ, КАБ ТЫ ЗРАБІЎ, ПАКУЛЬ Я БУДУ АДСУТНІЧАЦЬ.

ЯШЧЭ ГЭТАГА ЦУДОЎНАГА ГЛАЗУРАВАНАГА ЯГНЯЦІ, МАЯ ДАРАЖЭНЬКАЯ?

ДЗЯКУЙ, НЯ ТРЭБА. Я **НАЕЛАСЯ**.

НУ ТАДЫ ЯШЧЭ ТРОШКІ **ВІНА**, КАБ ЗМЫЦЬ УСЁ ЎНІЗ?

АЛЕ, УСЁ ДОБРА, ПРАЎДА. Я НЕ АБВЫКЛА ДА ТАКОЙ РАСКОШЫ.

ВАМ ГЭТА **НЕАБХОДНА**... ВЯРНУЦЬ СВАЁ ЗДАРОЎЕ, ПАСЛЯ СТОЛЬКІХ **ГАДОЎ** ГРЭБЛІВАГА ДАЧЫНЕННЯ З БОКУ **МОНСТРАЎ**, ЯКІЯ АКУПАВАЛІ НАШЫ РОДНЫЯ ЗЕМЛІ.

ШКАДУЮ ПАВЕДАМІЦЬ ГЭТА, АЛЕ ВАС ЯШЧЭ ЧАКАЮЦЬ НЕКАТОРЫЯ **НЕВЯЛІКІЯ ВЫПРАБАВАННІ**, АЛЕ...

ШТО ВЫ МАЕЦЕ НА ЎВАЗЕ?

БОЗЛІ ТРЭБА ДАПЫТАЦЬ ВАС. ГЭТА СТАНДАРТНАЕ ПАТРАБАВАННЕ ДЛЯ ЎСІХ ПРЫБЫЛЫХ.

АЛЕ НЕ ТУРБУЙЦЕСЯ, ЁН ВЕЛЬМІ ЗМЯНІЎСЯ З ЧАСУ ВАШАЙ АПОШНЯЙ **НЯЎДАЛАЙ** СУСТРЭЧЫ.

ПРА ШТО ВЫ? Я НЯ ВЕДАЮ СПАДАРА БОЗЛІ. Я НІКОЛІ РАНЕЙ З ІМ НЕ **СУСТРАКАЛАСЯ**.
НУ, З ТАКІМ, ЯК ЗАРАЗ НЕ, АЛЕ РАНЕЙ, КАЛІ ЁН ЦАЛКАМ БЫЎ ВАЎКОМ-ДРАПЕЖНІКАМ...
ВАЎКОМ?
БОЖА МОЙ, ЁН БЫЎ ТЫМ ВАЎКОМ? ЯКІ...?
ДЫ ШТО Ж ВЫ ТАКІЯ ПАЧВАРЫ?
ПАЧАКАЙЦЕ! УСЁ НЯ ТАК!
СПАЧАТКУ МУЧЫЦЕ МЯНЕ ХЛОПЦАМ, З-ЗА ЯКОГА МЯНЕ ЗГВАЛТАВАЛІ І ЗАНЯВОЛІЛІ. А ЗАРАЗ ВЫ ЖАДАЕЦЕ, КАБ МЯНЕ ДАПЫТВАЎ ВОЎК, ЯКІ СПРАБАВАЎ МЯНЕ **ЗАБІЦЬ**?
АЛЕ..!
ГЭТА СВЕТ **ВАР'ЯТАЎ**!
Далей: інтэрв'ю са сляпым